Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 11 (36) | Вільня, 18-га траўня 1934 г. | Год 2-гі.

Дня 7-га траўня 1934 г. пасьля цяжкое хваробы памёр у Празе Чэскай

**Мікалай Міхайлавіч**

**Вяршынін**

*Заслужаны беларускі культурна-грамадзкі дзеяч.*

**Пахаваны там-жа, на Гальшанскіх Могілках 9.V.34 г.**

# Ад Лукішак да Камчаткі.

I.

Нацыянальная палітыка чырвонае Масквы йшла рознымі шляхамі: адразу пасьля кастрычнікавай рэвалюцыі, камуністы хоць фармальна й крычалі на ўсіх мітынгах аб фэдэрацыйнай расейскай рэспубліцы, аднак фактычна ў кірунку сфэдэраваньня ўсіх краін, апынуўшыхся пад іх уладаю нічагусенькі не рабілі. У адносінах-жа да беларускіх земляў, камуністы былі асабліва скупыя. Обліскомзап (Областной Комитет Западнаго Фронта — здаецца так трэба чытаць гэты савецкі шыфр) быў ператвораны ў Літ-бел—г. зн. літоўска-беларускі і толькі ўжо шмат пазьней частку беларускай тэрыторыі, а фактычна амаль што адну Меншчыну ды частку Смаленшчыны і Магілёўшчыны адважыліся назваць Беларускай. Пасьля гэтага трэба было яшчэ доўга чакаць на той шчасьлівы мамэнт, калі чырвоныя маскоўскія сатрапы „соблаговолілі“ пашырыць тэрыторыю, так званай, Беларускай Савецкай Социалістычнай Рэспублікі наГомельшчыну і Віцебшчыну

Апошняе пашырэньне БССР, фактычна адбылося пад націскам беларускіх арганізацыяў пад Польшчай, а асабліва пасольскага клюбу „Грамада“.

Страціўшы магчымасьць, у сувязі з арганізацыяй КОП'у на савецка-польскай граніцы, тварыць дывэрсыйныя банды, камуністы далі загад з Масквы сваім агентам у Заходняй Беларусі за ўсякую цану пастарацца ўлезьці ў беларускія масавыя радыкальныя арганізацыі, якія ў той час працавалі легальна, з тым каб пасьля іх ахапіць.

Каб выканаць гэты загад, трэба было лічыцца з настроямі ды імкненьнямі той беларускай інтэлігэнцыі, якая стаяла на чале гэтых арганізацыяў, а так-жа паказаць усім, што там, за польскім кардонам, будуецца беларускі дом, як гэта сказаў у адной з сваіх соймавых прамоваў пасол Б. Тарашкевіч.

I сапраўды, камуністы павялі такую хітра-мудрую палітыку на той бок польскага кардону, што было ўражаньне, быццам там будуецца беларускі дом.

Тут, што праўда, расейская чырвоная Масква крыху пералічылася, бо-ж яна ўсё гэта рабіла выключна на вынас ня маючы ніякае ахвоты правадзіць свае шмат — абяцаючыя лёзунгі ў жыцьцё, але не агледзілася як беларусы з БССР, прыняўшы дэкрэты Вціка за чыстую, як кажуць манэту, пачалі так хутка разбудоўваць сваю бацькаўшчыну—Беларусь, што аж закурэла. Закурэла ў поўным значэньні гэтага слова—пачалася беларусызацыя на ўсіх фронтах ды ня толькі ў арганізацыях, установах ды грамадзкім жыцьці, але на'т у самой камуністычнай партыі. Як грыбы на дажджы паўсталі тысячы беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў, дзесяткі розных Тэхнікумаў, Унівэрсітэт, Беларуская Акадэмія і г. д.

Адначасна, за польскім кардонам расла Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, расла не днямі, а гадзінамі і мінутамі. Грамадаўская прэса што тыдзень сыгналізавала аб павялічэньні сваіх гурткоў і сяброў—адных сотнямі, другіх тысячамі.

Масква зразумела ўрэшце сваю памылку і так-жа хітра-мудра пачала падгатаўляць сабе новыя пазыцыі. Трэба аддаць бальшавікам справядлівасьць, што яны над кожнаю сваёю памылкаю вельмі дакладна, ўсебакова й доўга дыскутуюць, а ў выніку такой дыскусіі пачынаецца контракцыя, якая праводзіцца з нямяншаю энэргіяй.

Так сталася і ў беларускай справе: тут трэба было пачынаць з Заходняй Беларусі, бо-ж адгэтуль бальшавікі спадзяваліся найбольшай небясьпекі. На іх шчасьце і польскае грамадзянства, асабліва-ж абшарнікі, вельмі ўстрывожаныя разростам „Грамады“, пачало дамагацца ад Ураду яе ліквідацыі. Камуністы, як найлепш выкарысталі гэты мамэнт, бо-ж, уліўшыся ў паасобныя гурткі Грамады, пачалі сваю падрыўную правакацыйную работу.

Ведаючы наперад, што Грамаду нельга будзе падпарадкаваць компартыі, а спаткаўшыся да таго ў сваёй працы з пэўнага роду перашкодамі з боку Цэнтральнага К-ту Грамады, камуністычныя агенты ўжо ў кастрычніку 1926 вядуць найэнэргічнейшую акцыю ў кірунку скомпромітаваньня Грамады перад польскаю Уладаю. I калі не памагалі тыя ці іншыя яўна проці дзяржаўныя выступленьні паасобных адзінак, камуністы хапіліся за апошняе: пачалі намаўляць паасобных сяброў Грамады да розных тэрорыстычных актаў (Забойства конфідэнта Юдзёнка ў Дзісьненскім павеце, забойства конфідэнта Кузьмы ў Навагрудзкім павеце і г. д.) а на'т і проста да звычайнага шпіянажу.

Камуністы дакладна сабе ўяўлялі, што такая іх тактыка ў Грамадзе павінна спаткацца з боку польскіх уладаў з самаю жорсткою расправаю.

Праўда, ЦК Грамады таксама зразумеў гэтую хітра-мудрую ігру ды пачаў прыгатаўленьні да пераходу на новыя пазыцыі, але ўжо было позна. У ноч з 15-га на 16-га студзеня 1927 году ЦК Грамады сеў у поўным складзе за краты.

II.

Такім чынам першая частка абдуманага камуністамі пляну была зроблена. Цяпер трэба было толькі яшчэ дабіцца як найбольш жорсткага прысуду над Грамадаўцамі. У гэтым кірунку таксама была праведзена абдуманая акцыя бяз закіду. Пачынаючы ад савецкай прэсы, якая са скуры лезла падчас працэсу Грамады, каб паказаць, што Грамадаўцы — гэта камуністы чыстай вады, праз зарганізаваныя дэмонстрацыі на пагранічча, ды камуністычныя галадоўкі на Лукішках, аж да забойства Гурына — галоўнага сьведкі пракуратуры, камуністы стараліся скмпрамітаваць Грамаду. Мэта была дапята. Пасьлы дасталі па 12 гадоў катаргі.

Аднак перамога ня была поўнай, бо часьць абвінавачаных на чале з Астроўскім, Луцкевічам, сьв. Каўшом і Шнаркевічам была апраўдана.

Звольненыя Грамадаўцы пераканаўшыся канчальна падчас працэсу ў запраўдных плянах камуністаў, катэгарычна парвалі з імі ўсякую сувязь ды распачалі адпаведныя крокі перад польскім грамадзянствам ды ўладаю аб звальненьні засуджаных. Акцыя гэная закончылася, што праўда, пазытыўным вынікам, але нажаль няпоўным і спозьненым. — — — — — — — — — — — —

Пакуль Грамадаўцы сядзяць у польскіх вастрогах, Масква пачынае „чыстку“ ўсяго сьвядомага беларускага элемэнту ў сябе — ў Менску. Прыдумана спэцыяльна для гэтага, так званая, „нацдэмаўшчына“.

Пры помачы розных камбінацыяў ды правакацыі сыплюцца абвінавачваньні на найбольш ідэовых беларускіх дзеячоў — камуністаў, як Ігнатоўскі, Ільючонак, Адамовіч, Баліцкі, Прышчэпаў і інш. Прыпісваюць ім нячуваныя рэчы. У выніку часьць канчае ў падвалах ГПУ самагубствам, больш слабыя—каюцца, яшчэ іншыя пазаганяны ў Сібір, на Камчатку й Салоўкі.

Найбольш інтэлігэнтная частка беларускага актыву там на Усходзе канчальна разьбіта, на іх месца прыходзяць выключна маскалі, жыды й палякі.

Адначасна, зразумела, вядзецца ня менш энэргічная акцыя і на гэтым баку. Групу Астроўскага й Луцкевіча абліваюць найагіднейшымі памыямі, а каб усё гэта набірала большай праўдападобнасьці, ўжываюць да гэтае работы грамадаўцаў, да якіх маюць свабодны доступ у вастрозе праз сваіх агентаў, а так-жа пасłоў са „Змаганьня“.

I тыя і другія па слабасьці сваёй паддаліся правакацыі. Адных зманілі рознымі абяцанкамі на той бок, а другіх (змаганцаў) увапхнулі ў польскія вастрогі з тым, каб зманіць іх адтуль выменаю.

Заставаўся толькі яшчэ адзін Тарашкевіч, якога, ня могучы звабіць у Саветы пасьля выхаду яго з польскага вастрогу, „таварышы“ пастараліся ўвапхнуць ізноў у вастрог, фармальна перадаючы яго падчас праезду ў нямецкім цягніку, у Тчэве, у рукі польскае паліцыі.

Ізноў працэс, ізноў прысуд, а ў выніку—апошняя мена—Тарашкевіча на Аляхновіча.

Такім спосабам камуністы плян свой выканалі ў 100%: ўсіх, хто мог-бы запратэставаць па гэты бок кардону супроць іх антыбеларускае акцыі ў Меншчыне, забралі да сябе. Але й гэтага ім было мала, бо-ж прыехаўшыя на месцы пераканаліся, што ўсё тое, аб чым так прыгожа пялі камуністычныя агенты ў Вільні, аказалася маной, што не „нацдэмаўшчына“ выклікала такія жорсткія рэпрэсіі супроць беларусаў, а якраз і выдумалі „нацдэмаўшчыну“ выключна дзеля таго, каб не дапусьціць разьвівацца беларускаму народу самастойна.

Зразумела, што прадстаўляючы ў сваім часе, пры выкананьні свайго правакацыйна-агіднага пляну, ўсіх „Грамадаўцаў“ і „Змаганцаў“, як сьмелых барацьбітоў за правы сялян і работнікаў ды нявшчасных ахвяраў „польскага фашызму“, Саветы змушаны былі перад сваімі масамі спаткаць іх усіх з вялікаю помпаю — музыкай ды прамовамі. А пасьля?... Пасьля мы ведаем што сталася — ўсе яны трапілі за краты савецкіх падвалаў, пасьля каяліся і „прызнаваліся“ ўва ўсім, што трэба было ГПУ, а ў канцы — ссылка ў Сібір, на Камчатку, у Салоўкі.

Толькі Тарашкевіч яшчэ, здаецца, афіцыяльна не сядзіць за кратамі, але й гэта будзе трываць нядоўга. Адбудзецца працэс Вавулдзкага, у якім камуністы выкарыстаюць Тарашкевіча, як толькі ім будзе патрэба, а там расправяцца і з ім. I яго таксама, як Рак-Міхайлоўскага, Мятлу, Дварчаніна, Гаўрыліка ды іншых будуць абвінавачваць у найагіднейшых рэчах, як здрадніцтве, прадажнасьці, контррэвалюцыі, фашызме, супрацоўніцтве з польскаю дэфэнзывай і г. д і г. д. аж да нападу на СССР уключна.

Скажам болей, ня толькі Тарашкевіч, як інтэлігент, але той самы Корчык, які так злосна выступае на старонках „Зьвезды“ супроць усіх „грамадаўцаў“ ды „змаганцаў“, закідаючы ім усю пералічаную недарэчнасьць, гэты самы Корчык праз нейкі час трапіць у рады такіх-жа „здраднікаў“.

Яго ў сучасны мамэнт выкарыстваюць як „земляка“—які працаваў пэўны час супольна з вымененымі тут, у Заходняй Беларусі і ведае „мол“ пра ўсю іх „контррэвалюцыйнасьць“ пра іх „фашызм“, „здрадніцтва“ і г. д. Усё гэта камуністам патрэбна для акалпачваньня сваіх масаў, якія ўсё болей і болей імкнуцца скінуць з сябе чужацкае ярмо.

Вось як прадстаўляецца сапраўднасьць з „нацдэмаўшчынай“, „грамадаўцамі“, „змаганцамі“ ды шмат іншымі, што паверылі ў абяцанкі-цацанкі ды трапілі ў лапы маскоўскіх драпежнікаў. Ня выступаем мы тут, зразумела, ў абароне тых, што звабленыя камумуністычнымі абяцанкамі, „ікоркаю“ ды „шампанскім“, цяпер апынуліся ў горшых варунках чымся былі тут у польскіх вастрогах, бо-ж

яны па першае ня дзеці, а па другое, праўду кажучы, сьвядома прарабілі на гэтым баку ня меншую шкоду сваімі выступленьнямі супроць тых, хто не паддаўся камуністычнай правакацыі ды стойка вытрымліваў усе атакі.

Шкада, зразумела, іх як людзей, бо-ж палітыкі з іх слабыя. Гэта-ж, у пэўнай меры, дзякуючы, якраз, іх слабасьці, тысячы нашых найлепшых сьвядомых беларусаў дасюль яшчэ мучыцца ў польскіх вастрогах, можа дзякуючы іх слабасьці беларуская справа ў Польшчы апынулася ў такім тупіку, з якога нам так трудна ў сучасны мамэнт выблутвацца.

Няхай-жа гэты аб'ектыўны разгляд стварыўшагася палажэньня паслужыць толькі перасьцярогаю на будучыню для ўсіх тых, каго будзе аблутваць затручаная правакацыяй камуністычная прапаганда, бо-ж трэба ведаць, што, працуючы на два фронты, сталінаўскія малайцы *тут пхаюць усіх беларусаў на Лукішкі, прычапляючы ім „камунізм", а там пхаюць на Камчатку ці Салоўкі — прышываючы „нацдэмаўшчыну" ці „фашызм".* *Эр—скі.*

# Дакуль-жа гэта будзе?

Атрыманы ад грам. Рамана Алелькавіча артыкул п. н. „Дакуль-жа гэта будзе?", дзякуючы яго актуальнасьці пазваляем сабе зьмясьціць на гэтым месцы, зазначаючы, што справа ўпарадкаваньня беларускай мовы ў Праваслаўнай Беларускай Царкве мусіць быць урэшце канчальна ўпарадкавана.

РЭДАКЦЫЯ.

У „аўтокефальнай" праваслаўнай Царкве ў Польшчы наагул ня добра, а ў нашай Віленскай беларускай епархіі й зусім блага. Так, напрыклад, пасьля доўгіх змаганьняў ды абнаўленьня Кансісторыі, быў выданы загад у справе пісаньня мэтрыкаў у дзьвёх мовах — польскай і беларускай. Загадана была такжа карэспандэнцыю з кансісторыяй весьці ў беларускай мове. Аднак гэта трывала ня доўга, бо-ж даведваемся, што гэтымі днямі *Архіепіскап Хвядос адмяніў гэныя загады ды на'т забараніў Кансісторыі пісаць пабеларуску.*

Дакуль-жа будзе прадаўжацца гэты зьдзек над беларускім народам?

У гэтым выпадку ня можам наракаць на сяброў Кансісторыі, бо ведама нам, што ўсе яны спрацівіліся гэткаму недарэчнаму загаду Уладыкі Хвядаса, але на жаль з поглядамі Кансісторыі Архіерэй можа ня лічыцца.

Ня думаем такжа, каб гэта было прадуманая пастанова й Уладыкі, бо ён, на няшчасьце, стары і слабавольны, а спрытныя рознага роду падлізьнікі ды прахадзімцы, карыстаючыся з слабасьці Архіепіскапа, старающца праводзіць свае пляны. Тут мы перад усім маем на ўвазе ведамага місіанэра сьв. Рагальскага, якога ўкраінцы за русыфінатарскую дзейнасьць выгналі з Роўна, ды ня менш „ўслаўлена" на Віленскім грунце прат. Язэпа Дзічкоўскага. Беларускае грамадзянства яшчэ не забыла выступленьняў апошняга ў адносінах да беларускай гімназіі, калі ён супольна з тагачасным сваім кумпанам архімандрытам Марозавым ламалі дзьверы ў клясах гімназіі.

Аб гэткіх рэчах, як гэта ня прыкра, мы маўчаць ня можам, бо-ж прадбачым, што апошні загад архіепіскапа Хвядоса можа прынесьці неаблічальную шкоду Праваслоўнай Беларускай Царкве.

Мы ўважаем, што падзеі апошніх гадоў у Віленскай епархіі з'яўляюцца лёгічным ды няўхільным вынікам таго, што Вільня ня мае фактычна свайго „правяшчага" архіерэя. Трудна, бо-ж вымагаць лёгічнасьці ад чалавека, які дайшоў фактычна ўжо да такога веку (мае 71 год), калі ня можа адказваць за свае паступаньні.

Але гэтыя „лагодзячыя" для архіеп. Хвядоса, абставіны, нельга разглядаць як зьявішча нармальнае. Ён свой век аджыў і мусіць ісьці „на пакой".

Дабро праваслаўнай Царквы гэтага вымагае, і дзеля гэтага мы сыгналізуем трывогу.

*Сінод, як найвышэйшая Духоўная Улада і Мітрапаліт, як галава ўсяе Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, павінны пастанавіць гэтую балючую ды палючую справу на парадкv дня безадкладна.*

Мы, праваслоўныя беларусы, ня хочам паўтарэньня таго, што было: — розных „Ліхазельляў" ды іншых эксцэсаў. А для таго, каб справаю ўпарадкаваньня беларускай Царквы, змусіць заняцца тых ад каго гэта залежыць *усе Праваслоўныя Беларvсы павінны Аб'яднацца як адзін чалавек.* У царкоўнай агарожы ўсе запраўды праваслаўныя могуць зьмясьціцца.

Настаў вялікі час, каб мы праваслаўныя ўзялі свае справы ў свае ўласныя рукі, а ня служылі сляпым аружжам ў руках розных інаверцаў.

Пара, даўно пара скончыць з тым зьдзекам, які праводзяць у адносінах да нас нашыя ворагі.

*Раман Алелькавіч.*

# Гаспадарчы аддзел.

## Пчалярства.

Добрая матка, пры спрыяючых абставінах можа палажыць у працягу сутак каля 2000 яечак. Прымаючы пад увагу, што з яечка выходзіць пчала праз 20 дзён, а вылятае з вульля яшчэ праз 8 дзён, то пчала, якая выйдзе ў канцы мёдабраньня ня зможа на сябе зарабіць. Чарва-ж знаходзячаяся з абодвух бакоў рамкі спатрабуе больш 1 кг. мёду. Урэшце пчолы, якія маглі-б ляцець на работу мусяць карміць і выграваць чарву. З вышэйсказанага вынікае, што пчаляр павінен старацца каб, на час галоўнага мёдабраньня было як найбольш рабочай пчалы, а меней чарвы. Кожны пчаляр павінен знаць час надыходу і канца мёдабраньня, каб ведаць калі агранічыць прыплод пчалінай сям'і. Дзеля гэтага кожны пчаляр павінен весьці кніжку і аднатоўваць, калі ў яго ваколіцы зацьвітаюць расьліны, з якіх пчолы бяруць найбольшы збор мёду.

Як можна агранічыць матку, каб нясла менш яечак? З жыцьця пчолаў ведаем, што матка неахвотна пераходзіць за рамку з пылком, або за рамку залітую мёдам. Калі аддзяліць матку такім спосабам ад гнязда, пакінуўшы ёй некалькі рамак, то пакуль пчолы спатрабуюць пылок, або мёд, устрымаем яе ад складаньня яечак на аддзеляных ад яе такім спосабам рамках.

Усё-ж найпэўнейшы спосаб адзяленьня маткі гэта адгародная рашотка, праз якую могуць праходзіць толькі пчолы, а матка не. Адгародныя рашоткі знаходзяцца ў прадажы двух сартоў: з бляхі і дроту. Адгародныя рашоткі з бляхі горшыя, бо пчолы пралазячы псуюць сабе крыльлі аб вострыя берагі дзюрачак. Адгародную рашотку трэба аправіць у раму з тонкіх дошчачак. Рамка з адгароднай рашоткай павінна шчыльна прылягаць да сьценак і дна вульля, каб матка не магла яе абмінуць. Адгароджваем матку так, каб ёй засталося месца на 5-6 рамках. Трэба глядзець, каб у месцы дзе будзе адгароджана матка, ня было лёткі, а то часам можа выйсьці матка з роям. У вульлёх Лявіцкага і варшаўскім, рамкі, на якіх будзе сядзець матка перасоўваем узад гнязда, а ў Дадана збоку.

Адгародную рашотку трэба даваць толькі сільным пчолам і ў пору, за тыдні два да галоўнага мёдабраньня. Як толькі галоўнае мёдабране кончыца трэба адгародную рашотку вынуць, каб пчолы маглі прыпладзіць маладой пчалы, бо старой шмат выгіне падчас мёдабраньня.

## Барацьба з ліхазельлем.

Сустракаючаяся ў нас ліхазельле ёсьць настолькі прыстасаванае да тутэйшых кліматычных і глебавых умоваў, што ні водная з культурных расьлінаў з ім змагацца ня зможа бяз помачы чалавека. Калі з ліхазельлем не змагацца стала, калі ўсьцяж яго ня нішчыць, то яно, як болей жыцьцёздатнае, лёгка патрапіць пасяліцца паміж культурнымі расьлінамі і пароўнуюча з невялікімі труднасьцямі будзе шырака карыстаць з паветра, сонняшняга сьвятла, вады і пажыўных мінэральных складнікоў глебы, у той час ад нястачы ўсяго гэтага культурныя расьліны будуць марнець і гінуць. З гэтуль вынікае, што чым пасьпешней мы будзем весьці барацьбу з ліхазельлем, тым большаю звыжкаю ўраджаю нам адудзячаць культурныя расьліны. Аднак барацьба з ліхазельлем ня ёсьць такою ўжо лёгкаю справаю. Для барацьбы патрэбна заўзятасьць, а таксама знаньня, як спосабаў ба-

# Гаруем але расьцем.

*(Вясковыя ўражаньні).*

Восем гадоў, бо ад лютага месяца 1926 году, я ня быў у сваёй вёсцы, паложанай на рэчцы Котры ў маляўнічай лясной мясцовасьці Горадзенскага павету.

Маленечкая вёсачка — толькі 16 хатаў ды 20 гаспадароў, а жыхароў якраз 99 душ.

У гэтай роднай лясной глушы прабыў я роўна 28 дзён, значыцца месяц і якраз месяц вельмі шэры, калі вясна яшчэ ня дыхала ў часе майго прыезду туды, але раптоўна разьвінула свой гон да жыцьця, калі я выяжджаў назад, у Вільню.

Выехаў я з Вільні 19 сакавіка, 20-га а 6 гадзіне рана быў ужо на станцыі Скідзель (што на лініі Горадзен-Масты) і вольным шагам маршаваў сабе да мястэчка Скідля, каб там замальдаваць у валасьці свой прыезд на часовы пабыт да вёскі Б., паложанай за кілёмэтраў восем ад мястэчка.

Холадна. Пырскае дробны імглясты дождж. Дзень рынычны, са мною ідуць дзьветры групкі па 3-4 чалавекі жыдкоў-гандляроў, якія прыехалі на торг з Горадна.

— Дождж. Дый дарога кепская, — кажа адзін жыд, параўняўшыся са мною, — слабы будзе торг.

Ідзём па трохкілёмэтровым бруку-шасе. Мокра. Абмінаем лужыны і калдобы, трымаемся сярэдзіны, бо, па бакох, сьцежкі раскісьлі і ёсьць рызыка, калі не разьвітацца з калёшамі на гэтых сьцежках, дык напэўна набраць рэдкага глiністага мулу.

Торг мяне ня цікавіць. А тое, што перада мною кілёмэтраў восем фатальнай грунтовай дарогі, змушае крыху трывожыцца: пара гэткая, што ні праехаць, ні прайсьці.

— Наўрад, ці будзе якая фурманка, — думаю сабе.

Але вось дабрылі да мястэчка. Яно ўжо ня сьпіць, хоць рынычны пляц яшчэ пусты, калі ня лічыць аднаго воза з дровамі, прыбыўшага напэўна з якой-нібудзь вёскі, блізкае ад шасы Горадзен-Ліда.

Яшчэ тры мінуты і я ўжо вітаюся з знаёмым жыдам, які вылез на ґанак свае крамы акурат на тэй вуліцы, што вядзе на дарогу да мае вёскі.

— Ці будзе хто сягоньня з Б.? — пытаюся пасьля прывітаньня.

— Трудна сказаць, — адказвае жыд, — яшчэ рана, сёмая гадзіна. А так у гадзін 9 хто-колечы будзе, але хіба што конна або пехатою, бо цяпер не даехаць...

У гэты мамэнт заяжджае на падворак фурманка, а на ёй пара маіх землякоў — мужчына з жанчынаю... Праз поўгадзіны зьяўляюцца яшчэ землякі, нарэшце пляменьнік, пляменьніца, родная сястра. Усё конныя або пешыя.

Бяссоннае ночы на горадзенскім вакзале як быццам і ня было. Радасьць сустрэчы ўзмацняе мае нэрвы.

Заходжу ў валасны ўрад, выпаўняю зялёную картку замальдаваньня. Вітаюся з войтам (ён тут нязьменным старшынёю ад перадваеннага часу). Але мушу назвацца, хто я. Не пазнае мяне. Я дагадваюся, што гэта войт па яго захоўваньні з інтэрасантамі. Адразу таксама ня мог я пазнаць, што гэта той самы гр-н Ф. Восем гадоў ня бачыліся. Абодва мы значна зьмяніліся.

Маім родным сакунскім дыялектам гаворыць войт з інтэрасантамі пабеларуску. На аднэй з сьценаў — ваконца пана валаснога рахункавода, над ваконцам таблічка „Kasa", а пад ёю другая таблічка-двумоўная: „palić wzbroniono" ды „*курить забаранено*". Маўчу, хоць сьмешна робіцца ад гэтага *курить*, а яшчэ больш ад гэтага: *забаранено.*

Робіцца ясным, што нехта напісаць хацеў *курыць забаронена*, але ніхто з валасное канцэлярыі, як відаць, ніякага паняцьця аб беларускім правапісе ня мае, а адсюль расейскае слова *курить* і гэта другое слова, што прыпамінае таксама расейскае „*воспрещено*". Затое таблічка прыгожая — у чорныя стройныя літары нейкі местачковы мастак улажыў увесь свой спрыт.

Пацягнуліся адзін за адным ціхія дні ў вёсцы. Аднае ночы выпаў апошні сьнег мінулае зімы. Котра блішчэла больш як два тыдні сваім шырокім разводзьдзем. Вада марудна спадала, агаляючы два-тры сантымэтры зямлі за дзень.

Сваякі ды землякі сваімі гутаркамі са мною даюць багаты матар'ял аб вясковым жыцьці.

Тут на месцы паважная балячка: вёска мая... захварэла на камасацыю зямлі плюс мэліорацыя.

У нядзелю прыглядаюся да сьвяточных вопратак хлапцоў з саматканнае мэтэрыі. Дзяўчаты яшчэ апранаюцца ў крамныя тандэты. А якія дываны ткуць на вёсцы! Якія багатыя ўзоры ды прывабныя камбінацыі колераў і рысункаў на гэтых дыванох!..

Кожны гаспадар мае больш як 80 шнуроў загонаў. Некаторыя гаспадаркі маюць 3 і нават менш гэктараў. Жыць пастарасьвецку далей немагчыма. Ініцыятыва камасацыі паходзіць ад беднаты. Заможнікі і крэтыны ў опозыцыі. Усіх палохаюць расходы. Нават 2 з паловай злотых ад гэктара на пачатковыя работы па хутарызацыі зьяўляюцца вялікім цяжарам. Аднак, за колькі кілёмэтраў навокала, вёскі і сёлы правялі або праводзяць яшчэ гэтую самую камасацыю.

Гаспадарчы крызыс балюча адчуваецца нават тут, у гэтай глушы. Калі на старане не ўдаецца каму зарабіць колькі залатовак, дык з самое зямельнае прадукцыі трудна выціснуць гэтыя залатоўкі на няўхільныя падаткі. Бацька аднаго з нашых маладых поэтаў, вялікі аматар курыць, частаваў мяне раз сваёю... табакою. Куру. Саладкаватае нешта, але што?

— Вішнёвае лісьцьцё, — паясьняе гаспадар.

— Махоркі, — кажа, — пачак за два дні з сынам высмалім, сеяць табаку забаро-

рацьбы з ім, так і спосабаў пашыраньня яго.

Сустракаючаяся ў нас ліхазельля бывае аднагадовае і шматгадовае. Аднагадовае размнажаецца насеньнем, а шматгадовае, галоўным чынам, карэньнямі і карнявішчамі. Стасоўна да спосабаў пашыраньня бывае і барацьба з ім розная.

Насеньне ліхазельля пападае на поле адусюль: 1) пры помачы ветру з межаў і адлогаў, нават далёка знаходзячыхся, на якіх яно мела змогу дасьпець, 2) з расьлінаў ліхазельля, якое расьце сярод культурных расьлінаў і дасьпявае да збору астатніх, 3) насеньне ліхазельля дастаеецца на поля яшчэ з сьвежым гноем, у якім яго бывае заўсёды шмат. Апрача таго насеньне ліхазельля пераносіцца пры помачы жывёлы і многімі іншымі спосабамі.

Вось-жа, пры барацьбе з ліхазельлем, трэба ў першую чаргу пастарацца, каб зярнят яго ня было ў насеньні культурных расьлінаў. Далей барацьбу з ім трэба вясьці правільнай апрацоўкай глебы і правільным чаргаваньнем расьлінаў. Трэба пасьля збору кожнае збажыны (калі да яе не зроблены падсеў) правесьці зараз-жа плыткую ворку, дзякуючы каторай прысыпанае зямлёю насеньне ліхазельля прарасьце і пасьля будзе зьнішчана пазьнейшым баранаваньнем. Для нішчаньня ліхазельля таксама шмат спрычыняецца глыбокая васеньняя ворка. Чаргаваць збажовыя расьліны, пасьля каторых поле заўсёды ў большай, ці меншай меры засьмечанае, з расьлінамі, якія вымагаюць міжрадковае апрацоўкі (буракі, бульба) і дзякуючы якой гіне шмат ліхазельля; апрача таго добра ачышчаюць ад ліхазельля поле, шыракалістыя расьліны, якія густа засеяны і добра заценяюць грунт (канюшыны, гарахі, віка).

Вясною, асабліва калі ў збожы ліхазельля шмат, трэба яго нішчыць баранаваньнем. Баранаваць можна пшаніцу, ячмень і авёс. Добры спосаб, хаця, праўда, трудны спосаб барацьбы з ліхазельлем — гэта полка. Апрача таго не дапусьціць ліхазельле да выданьня насеньня можна пры помачы высокага кашэньня пасеву тупымі косамі. Тупая каса, такім чынам, зрэзвае вяршкі ліхазельля а збожжа толькі прыгінае. З гэтаю мэтаю трэба чыста абкасіць дарогі, межы і адлогі перад тым, як на іх мае зацьвісьці празнае ліхазельле.

Шматгадовае ліхазельля, якое сільна размнажаецца пры дапамозе каранеў, ці карнявішч, як пр. асот, трэба пасьля дажджу вырываць з карэньнем рукамі, або выкопваць. Дзеля таго, што застаўшыяся ў глебе часткі карэньняў, ці карнявішчаў даюць ізноў гоны, то вырываньне такога ліхазельля трэба паўтарыць працягам лета некалькі разоў.

Супраць рознага ліхазельля, асабліва супраць сьвірэпы, дзікае рэдзькі і дзікай гарчыцы часта ўжываецца хемічных сьродкаў. Да такіх сьродкаў належыць 15 працэнтны рошчын сярчану жалеза (на сто літраў вады 15 кг. сярчану жалеза). Гэтым рошчынам апрысківаюцца засьмечаныя ліхазельлем збажовыя пасевы (іншых расьлінаў, як бульба, буракі, грэчка і іншыя гэтым рошчынам скрапляць ня можна).

У апошнія часы нішчаньня ліхазельля ў збажовых расьлінах пераводзіцца даволі пасьпешна пры дапамозе азатняку і каініту, або і абодвых разам. Астанні спосаб выгадны тым, што азатняк і каініт самі па сабе зьяўляюцца штучнымі гнаямі для расьлінаў.

Як азатняк, так і каініт для гэтае мэты ўжытыя павінны быць на муку зьмелены. Такім парашком каініту, або азатняку пасыпаецца збажовы пасеў раніцаю, калі яшчэ ня зышла раса, або пасьля дажджу. Загадзя застасаваныя гэтыя сьродкі, калі яшчэ ліхазельле зусім маладое, дзеюць значна мацнэй. Ня можна высяваць іх перад дажджам. Каініту для гэтае мэты ўжываецца на гэктар ад 800 да 1200 кілёграмаў, азатняку — ад 100 да 150 кг. Калі-ж хочам ужыць каініту і азатняку разам, то тады даецца азатняку 75-100 кг. і 750-1000 кг. каініту на гэктар.

*К. З.*

**БАЦЬКІ!**

**Навучайце вашых дзяцей**

**чытаць і пісаць**

**пабеларуску.**

## Сьв. пам. Праф. Мікалай Вяршынін

З Прагі Чэскай дайшла да нас сумная вестка аб сьмерці заслужанага беларускага дзеяча Мікалая Міхайлавіча Вяршыніна. Дзеля таго, што вестку гэтую мы атрымалі ў апошнюю хвіліну перад здачей газэты на машыну, дазволім сабе пакуль што абмежыцца толькі жменяй фактаў аб нябожчыку.

Сьв. п. Мікалай Вяршынін радзіўся ў Горадзеншчыне, дзе і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады. Захапіўшыся соцыял-рэволюцыйнай ідэяй, прыймае жывы ўдзел у краёвых арганізацыях. Пасьля рэволюцыі 1905 году Мікалай Вяршынін быў арыштаваны і засуджаны ў Сыбір за сваю палітычную дзейнасьць. Аднак, з Сыбіры здолеў уцячы заграніцу, дзе як палітычны эмігрант, пражываў у розных эўрапейскіх цэнтрах (перадусім у Лёндане, Дрэздэне і Бэрліне). Аканчальным мейсцам свайго сталага пабыту перад вайной абраў Прагу, дзе займаў пасаду вучыцеля ў гандлёвай школе.

Пасьля ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі М. Вяршынін быў назначаны беларускім прадстаўніком у Чэхаславаччыне. З гэтага часу М. Вяршынін становіцца цэнтральнай асобай для ўсяе беларускае эміграцыі. Найбольш гэта адчула беларуская студэнская моладзь, для якой дзьверы памешканьня М. Вяршыніна былі заўсёды адчынены. Ня мала заслугі палажыў нябожчык да здабываньня ўрадовых стыпэндыяў для беларускай моладзі ў 1921—25 г.г.

М. Вяршынін верна стаяў на стражы інтарэсаў беларускага народу да самае сьмерці. Кожныя падзеі у краі жыва адгукаліся ў чулым сэрцы нябожчыка.

У апошнія гады М. Вяршынін задаўся мэтай арганізаваньня беларускага заграніčнага архіву. Праца ягоная была памысная і цяпер беларускі архіў у Празе налічвае шмат цікавых і рэдкіх друкаў.

Ня мала спрычыніўся М. Вяршынін да прапаганды беларускае справы на міжнародным грунце. Нябожчык быў сталым карэспандэнтам некалькіх заграніčных газэт і часапісаў. Ім-жа прыгатавана да друку некалькі працаў у беларускай мове: «Беларусы ў славянскай сям'і» і «Апісаньне Налібоцкае пушчы».

М. Вяршынін быў чалавекам вельмі зраунаважаным і адзыўчывым. У гутарках заўсёды выяўляў жаданьне павароту на Бацькаўшчыну. Жыў у вялікіх матар'яльных недахопах. Хварэў ад даўжэйшага часу на катар кішок.

Пахаваны на Гальшанскіх могілках 9 траўня ў Празе.

У асобе с. п. Мікалая Вяршыніна, Беларусь страціла шчырага сына і барацьбіта за Яе Незалежнасьць і лепшую будучыню.

*М. І.*

В. С.

## ПРЫПАДАК.

На вуліцах вечарэла, калі кампанія расейскіх студэнтаў выйшла з рэстарану. Аугень, ківаючыся, ішоў з таварышамі і асабліва прыемна адчуваў жыцьцё. Ён сягоньня атрымаў з хаты грошы і завёў брацію на выпівон. Міма праходзілі людзі, прыгожыя дзяўчаты і адным ён усьміхаўся, другім крывіўся.

У гарадзкім садзе студенты падселі на лавачку да нейкіх дзяўчат, выцягнулі ногі і адпачывалі, перакідаючыся моцнымі словамі. Дзяўчаты, зачырванеўшы ўцяклі і ўсьлед за імі панёсься пьяны, вясёлы рогат.

Аўгень чуў, як утома разьлілася па яго целе, як прыемна нылі змучаныя ногі. Прад ім неяк дзіўнапаважна совалася публіка, ўсё неяк мятусілася, кідаючыся ў вочы найменшай дробязьзю. Студэнты закурылі, паплявалі, вылаяліся і пачалі думаць, куды ісьці далей. Піць ніхто больш не хацеў. Але паскакаць меў кожны ахвоту. На вечарынку-б заваліцца. Пастанавілі пайсьці на беларускую вечарынку— канцэрт. Зусім прыпадкова. Алёшка, якога звалі Жырафай, шукаючы папіросу, знайшоў запросіны на вечарыну ад гімназістак. Зусім прыпадкова. І прыпадкова ня было куды пайсьці. Пасьмяяліся з запросінаў, перакруцілі мову і з гумарам пасунуліся, растаўківаючы публіку.

У салі было шмат народу. Яшчэ канцэрт ня скончыўся.

— Па-аслушаем! — прабасіў нізка Алёшка.

нена, дык трымаем у рэзэрве вішнёвы ліст.

На другім тыдні хочацца мне чытаць. Дастаю ад поэта „Францускую Рэвалюцыю“ нейкага нямецкага аўтара ў расейскім перакладзе. Кніжка пазбаўлена ўжо пачатку і канца: шмат рук трымала яе, шмат вачэй чытала. Затое ў тоўстым томе раману Краснова „От двуглаваго орла к красному знамени“ не хапае ўсяго некалькі бачын. Пляменьнікі прыносяць мне яшчэ томік без пачатку і канца. Прабягаю па кніжцы вачыма і пазнаю; „Женщина и социализм“ Бэбэля. Чытае моладзь і польскіх паважнейшых аўтараў, чытае газэты. Даходзіць туды з Вільні „Белар. Крыніца“ і „Nasz Przyjaciel“. Адчуваецца недахоп роднае беларускае лектуры. Ага! Ледзь не забыў „Асвы“ нашых камуноідаў. Заляцела і туды ад сяла Г. За 5 кілёмэтраў.

У сяле Г. цэрква, байкатованая моладзьдзю, як элемэнт русіфікатарскі. Поўна ў царкве бывае, як мне казалі, толькі пару разоў у год: на Вялікдзень ды на Ўзьвіжаньне (фэст).

— Гаруем, але расьцем, — адказваў мне адзін юнак на прывітаньне. І гэта запраўды так.

Вёска жыве тугою па роднай школе, імкнецца да асьветы, да кнігі. Гэта ў лепшай сваёй часьці. Старыя ды заможнікі ўспамінаюць Расею і што найдзіўней — якраз кулакі ня тояць сваіх сымпатыяў да... бальшавізму.

Бібліятэка быўшага ў мястэчку гуртка ТБШ закрыта для ўжываньня. Аб ТБА там мала што ведаюць.

Некаторыя актыўныя адзінкі ў ваколічных большых вёсках стараюцца шукаць магчымасьці легальнай пастаноўкі беларускіх спэктакляў, закладаючы пажарныя каманды, і нават koła młodzieży wiejskiej.

Прыкра адчуваецца бацькамі выкладаньне праваслаўным дзецям рэлігіі ў школах па польскім сынодальным падручніку, у якім дзіўна выглядаюць побач з славянскім тэкстам тлумачаныя папольску troparjony ды kondakjony.

— Як гэтак пайдзе далей, — кажа мне адна цётка, — дык пэўна і абедню поп папольску будзе служыць.

Навокал па вёсках беларускі праваслаўны масыў; моладзь нацыянальна сьвядомая.

Першы дзень Вялікадня. Вечар. Пазьнее. Чаму-ж ня чуваць валачобнікаў? Іх так і ня было праз усю ноч. А кажуць, што ў мінулым годзе яшчэ прыходзілі. Як відаць, дык гэты старасьвецкі звычай — пяяць пад вокнамі на Вялікдзень — ужо перажыты.

Затое іншы, ня менш старадаўны, звычай яшчэ жыве па глухіх лясных кутках. Гэта — ігрышча. Вун моладзь (а некаторыя і старыя) сабралася у аднэй з прасторнейшых хатаў ля мосту. Рэжа гармонік. Яму памагае скрыпка. Скачуць. Хлапцы пацягнулі (і нават зашмат!) гарэлкі. Духата, хаця дзьверы ўвесь час адчыненыя. Вальс кончаны. У кутку на лаве дзьве дзяўчыны прабуюць пяяць на два галасы. Паліўся гучны, працяжны дуэт. Абодва галасы зьвіняць сваёю чысьцінёй на вельмі высокіх нотах. Услухваюся ў словы: яны беларускія. Але душна. Дуэт замірае. Так і не ўлавіў я ўсіх словаў песьні, заняты лёгкай гутаркаю. Моладзь зусюль: папрыходзіла за 4-5 кілёмэтраў. Назаўтра спэктакль за 3 вярсты ад нас у вёсцы Бандарох — ставяць п'есу „Пярэстая красуля“. Моладзь мае быць там зусюль. Пасьля спэктаклю ізноў ігрышча ўсю ноч...

Ці-ж можна вычарпаць уражаньні з роднага кутка, з якім чалавеку здараецца быць у доўгай разлуцы ды пасьля трапіць туды на кароткі час?

Але на заканчаньне не магу прамаўчаць аб гутарцы з адным дзядуляй. Я сустрэўся з ім у дзяржаўным лесе за leśniczówką, хутка ўжо перад ад'ездам, калі рэчка зусім схавалася ў берагі і дарога ў лес высахла.

У дзеда настрой пэсымістычны.

— Гаруеш, кажаш, у горадзе... Выбачай, што я так проста... гэта-ж я цябе ад грудзей матчыных помню...

— Ну, пэўна, дзеду... Бо калі вы былі гэткім, як я цяпер, дык мяне хіба і на сьвеце яшчэ ня было, — перабіваю я і частую дзеда махоркаю.

— Бачыў вун палац лясьнічага, — разважае дзед, — Дзе-ж тут дабро на сьвеце будзе! І наліха тут было сярод лесу гэткі капітал выкідаць?

Прабую даказаць дзеду, што гэта ня блага, — культурна будавацца можа пачнуць людзі, гледзячы на гэта...

— Хі... *культурна*, сынку, кажаш? А памятаеш, як старшы лясны *левізор* кожнага лета ў доме аб'езчыка жыў? А ці-ж ён быў ня-*культурны*? Хатка была з круглякоў, у адным канцы *левізор*, а ў другім аб'езчык. Жыў гэткі пан і не *задушыўся*. А тут 75 тысячаў, сынку, на гэтую лясьнічоўку лягло, адна абгароджа 2 тысячы каштавала, а лесу-ж на яе ня куплялі, ён тут на месцы расьце. І каму палац гэты паставілі? Кандуктару лясному — гэтак яго *падвышалі* даўней. А цяпер, бач, лясьнічым завуць, у палац залез.

Размалёваная фарбаю лясьнічоўка стаяла ў гэткім вострым контрасьце з убогімі вясковымі хаткамі недалёкіх ад яе пасёлкаў, што сьмешна было-б шукаць проці дзеда якіх-нібудзь контр-аргумэнтаў...

19-га сакавіка вясна зазначылася зусім. Надыходзіла самая цудоўная пара для вёскі. Зялёны дыван ткала сабе зямля... З лёгкім сумам пакідаў я вёску.

Сеўшы а 7 гадзіне раніцай у аўтабус, на 12 гадз. я быў ужо ў Вільні. Здаецца, каб меў нават крыльля, дык 180 кілёмэтраў гэтак хутка не адмахаў-бы.

*Краўцоў Макар.*

— Гы—гы—адказала брація.

Селі і пачалі разглядацца.

Аўгень быў п'яны і можа таму, калі паплыла песьня, яна неяк блізка тулілася да яго сэрца і смуткам прасачывалася і білася крыльлямі павеўнымі...

Замёршы слухаў ён песьню, што ў заціхшай залі білася птушкай спалоханай, ударалася ў сцены і сэрцы, трапечучы, заміраючы, галосячы.

Цяпер ён толькі зразумеў, прыпадкова, раптоўна, зразумеў усю глыбіню цярпеньня народнага, што складаў вякамі гэтую песьню. Можа таму зразумеў, што...

Малы ён. Сонца няміласэрдна пячэ. Здаецца, паветра — расплаўленая сталь. Нясе ён ваду маці. Далёка ў поля. І так—песьня ў замершым прасторы змучаных жней Пасыпаліся каткі вербаў... Паляцелі белым дымам вішні. Паплылі ўспаміны, як сьветлае сонца між шэрані жыцьця—дзяцінства...

І адно дакончыла Аўгеня. Вось ён едзе ў унівэрсытэт. Стаіць на станцыі бацька. Воддаль конік запрэжаны. Бацька дае яму апошнія грошы. Сам бульбу сеіць. Зьбірае. Сына вывучыць хоча. А ён?

Горла сьціскае нейкі вявымоўны жаль.

Песьня плыве, дрыжыць, трапеча..., ня песьня, а крыўда людзей, што пад сонцам пралівалі крывавы пот...

Аўгень моцна б'е брава. Студэнты думалі, што ён так падсьмейваецца. Што там беларуская культура? Прастанародзьдзе... Пачалі падсьвістываць. Асабліва Жырафа. Аўгень паволі падняўся й размашыста ўдарыў Жырафу і выйшаў з залі.

Тата! Мілы, дарагі! Выбач—енчыла ў яго душы.

Назаўтра ён выпісаўся з расейскага кружка.

---

*Альм.*

# Сцэна.

Аматары драматычнага мастацва на вёсцы часта жаліліся мне, што няма кнігі ў беларускай мове, з каторай зазнаёміліся-б яны аб сцэнічнай тэхніцы, а прыходзіцца ім гуляць і грыміравацца, як каму ў галаву прыйдзе. Папрабую ў кароткіх нарысах вырашыць гэта.

Запраўды, на грунце яснага разуменьня ролі, артыст можа, кіруючыся знаёмствам тэхнікі сцэны, стварыць мастацкі абраз, пралажыць сабе сьцежку да таго шырокага шляху мастацтва, каторы вядзе да зразуменьня сусьвету. Але гэтая тэхніка не павінна быць разгледжвана, як збор пэўных паўтараючыхся правілаў, выліўшыхся ў пэўныя застыўшыя формы, і кожны артыста павінен укладаць сваю творчую фантазыю.

Сцэнічная тэхніка складаецца з дэклямацыі, мімікі і грыму. *Дэклямацыя.* Кожнаму зразумела тое вялізарнае значэньне, якое мае дыкцыя для артысты. Яня зьяўляецца для яго адным з галоўных элемэнтаў сцэнічнай тэхнікі. Ня можна лічыць, што дыкцыя выплывае, як просты вынік з разуменьня таго, што гаворыш на сцэне. Часта аднак такога разуменьня мала, трэба яшчэ і ўмець уладаць сваім голасам. Гэта можа быць дасягнута чыстымі практыкаваньнямі заснованнымі на пэўных правілах.

Уменьне кіраваць сваім голасам шмат залежыць ад уменьня дыхаць. Асоба ўмеючая набіраць шмат паветра, утрымлівае яго, паступова выпускаючы, умее сказаць шмат слоў не задыхаючысь, не манатонна ўмее надаць свайму голасу ў пэўны момант сілу. Для артысты вельмі важна і гібкасьць голасу; нізкія гукі трэба вымаўляць выразна, бо на салі слухачы могуць і не пачуць яго. Апрача таго артысту трэба ўмець таніраваць, што ён гаворыць са сцэны. Тон гутаркі складаецца з працягу кожнага складу, вышыні і сілы яго. Вельмі важнае значэньне мае т. зв лёгічны націск, гэта ёсьць павышэньне тона на пэўным слове. Калі я, напрыклад, хачу, падкрэсьліць у выражэньні „я пішу Вам“, тое, што Вам, а не іншаму я пішу, я выгаварываю слова „Вам“ мацней, чым іншыя словы дадзенага сказу. Лёгічным націскам трэба карыстацца вельмі асьцярожна, толькі ў неабходных выпадках, бо ў праціўным разе гутарка будзе не натуральная.

Паказаньнем паўзы зьяўляецца пункт і коска ў тэксьце. Паўзы ўжываюцца для выражэньня зьдзіўленьня, а таксама для выражэньня моцных душэўных перажываньняў, калі артыста хоча зрабіць найвялікшае ўражаньне на сваіх слухачоў. Паўзы часта замяняюць недаказаныя думкі. Часта паўзі наступаюць пасьля прапушчаных слоў. „Сын пайшоў на службу, а другі—ў магілу“. Пасьля слова „другі“ неабходна паўза, каторая столькі цягнулася-б, колькі праблізна патрэбна для таго, каб сказаць прапушчанае слова „пайшоў“.

Спакойнае, роўнае апісаньне зьявішчаў акружаючага сьвета вымагае роўнага спакойнага тону, наадварот там, дзе замест супакою мы спатыкаемся з рэзкімі зьменамі настрояў, пачуцьцяў, там рух рытму, яго скорасьць зьмяняецца. Неабходна шляхам практыкаваньняў дасягнуць хуткай зьмены тэмпу. Пры хуткай зьмене тэмпу неабходна практыкавацца ў дыханьні для таго, каб яно адбывалась бязшумна і няпрыкметна для глядзельнікаў.

Камічны тон вельмі трудна падвесьці пад нейкія правілы. Тут ужо чуткасьць артысты павінна падказаць, у якой ступені трэба ўжываць лёгічныя і мастацкія націскі. (Далей будзе).

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У Вільні.

*Агульны Сход Беларускага Дабрадзейнага Т-ва.* У суботу 26-га траўня адбудзецца чарговы гадавы сход Беларускага Дабрадзейнага Т-ва з наступным парадкам дня:

1) Справаздача Ураду і Рэвізыйнай Камісіі.
2) Плян працы на 1934-35 год.
3) Выбары Ураду і Рэвізыйнае Камісіі.
4) Бягучыя справы.

Пачатак сходу у 16 гадзін у першым тэрміне і ў 17 г. у другім тэрміне.

## У Чэхаславаччыне.

*Беларуская кніга ў Чэхаславаччыне.* У леташнім годзе ў Чэхаславаччыне былі зроблены тры выстаўкі друкаў у Празе, Брне і Падрубіцах.

Выстаўкі мелі міжнародны характар. Беларуская кніга заняла на гэтых выстаўках належнае мейсца. Трэба адзначыць, што лічба беларускіх кніжак у чэхаславацкіх бібліятэках даволі паказная. Як падае „Słovansky Prehled“ у Славянскай бібліотэцы ў Празе знаходзіцца: расейскіх кніг — 110.000, украінскіх — 12.000, *беларускіх — 2000*, польскіх — 19.000, сэрбскіх і харвацкіх — 9000, славінскіх — 3000, баўгарскіх — 4000 і лужыцка-сэрбскіх — 1000.

Аппача таго ў Расейскім Гістарычным Заграмічным Архіве ёсьць 5000 беларускіх кніг і 200 часапісаў. Значная лічба беларускіх кніжак знаходзіцца ў наступных бібліятэках у Празе „Studensky domov", „Česky muzeum“, унівэрсытэцкая бібліотэка. Прага бадай што адзінае места на Захадзе Эўропы, дзе знаходзіцца найбольш беларускіх друкаў. Там-жа перахоўваецца і арыгінал Скарынаўскае бібліі, выдрукаванай у 1517 г. пабеларуску.

Цяпер ёсьць у Празе Беларускі Архіў, кіраўніком якога быў сьв. пам. гр. М. Вяршынін. У Архіве знаходзіцца шмат цікавых гістарычных дакумэнтаў, *М.*

---


**Беларуская Дзяржаўная Гімназія ў Вільні**

Прымае заявы ад жадаючых пастуціць у гімназію **вясною** ўва ўсе клясы:

**Варункі прыйма:** у I клясу прымаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты), ў веку ад 12 да 16 гадоў, якія скончылі 6 адделаў пачаткавай школы, на падставе праверачнага экзамену з беларускае і польскае моваў, арытмэтыкі, прыроды, гісторыі і географіі:

У II клясу век ад 13 да 16 г. і поўны экзамен па праграме I клясы з ўсіх прадметаў.

У V кл. (яшчэ па старай праграме) век ад 14 да 17 гадоў і адпаведны экзамен;

У наступныя клясы да VIII ўключна павялічваецца век на 1 год для кожнае клясы.

**Да заявы трэба далучыць:** 1) мэтрыку 2) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы і 3) школьнае пасьведчаньне.

Заявы прымаюцца (можна пераслаць поштаю) у канцэлярыі гімназіі (Вострабрамская вул. № 9)

Экзамены ўва ўсе клясы адбудуцца 15 і 16 чэрвеня

**Пры гімназіі ёсьць інтэрнаты: для хлапцоў і дзяўчат.**


# З краю.

× **Склад габінэту старшыні Рады Міністраў, праф. Казлоўскага.** У сувязі з дымісіяй старшыні Рады Міністраў Я. Енджэевіча, Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай назначыў Старшынёю Рады Міністраў праф. д-р. Лявона **Казлоўскага**, дасюлешняга віцэ-міністра Фінансаў і б. міністра Рольных Рэформаў. 15 га г. м. новы прэм'ер злажыў Прэзыдэнту Р. П. лісту новага ўраду, якую Прэзыдэнт зацьвердзіў. Склад новага габінэту прадстаўляецца наступна: 1) міністр унутраных спраў—Браніслаў Перацкі; 2) мін. спраў замежных—Язэп Бэк; 3) мін. спраў вайсковых — Маршалак Польшчы Язэп Пілсудскі; 4) мін. фінансаў — Уладыслаў Завадзкі; 5) мін. асьветы — Вацлаў Енджэевіч; 6) мін. справядлівасьці—Чэслаў Міхалоўскі; 7) мін. ральніцтва і рэф. рольных — Браніслаў Наконечнікоф-Клюкоўскі; 8) мін. гандлю і прам. — Гэнрых Райхман; 9) мін. камунікацыі — інж. Міхал Буткевіч; 10) мін. апекі спал. — Юры Пацяроўскі; 11) мін. почт. і тэлегр. — інж. Эміль Калінскі. Новы ўрад на чале са старшынёй Рады міністраў праф. Казлоўскім, злажыў прысягу на рукі Прэзыдэнта Р. П

× 11-га траўня (ПАТ) г. г. ў Палацу праваслаўнай мэтраполіі ў Варшаве, адбылося паседжаньне дэлегатаў Ураду і праваслаўнай герархіі пад старшынствам Я. Б. Мітрапаліта Дзіаніса. Гэтае паседжаньне адбылося ў сувязі з прыгатаваўчымі працамі да сходу Сабору. Наступнае паседжаньне вызначана на 29 і 30 траўня.

× Як падае арганізацыйная Рада Палякоў з заграніцы, падчас II-га зьезду 5-га VIII. г. г. будуць кружыцца над Варшавай **аж 300 аэрапляпаў.**

× **Сетка паветранае камунікацыі** паміж Польшчаў і суседнімі дзяржавамі будзе ў хуткім часе далей разбудавана. Па апошнім разгляду лініі Варшава—Бэрлін, разгледжваецца праэкт лініі Варшава — Будапэшт; лінія Варшава—Вена будзе прадоўжана да Будапэшту.

× Як ведама, паводле новай уставы ў справе выбараў, права голасу маюць таксама і пачэсныя грамадзяне, незалежна ад таго, дзе жывуць. Дзеля гэтага ў многа ў якіх гарадох на першым месцы выбарчых лістаў знаходзіцца прозьвішча **Маршалка Пілсудскага**. Апошнімі часамі знайшлося яно і на выбарчай лісьце м. Вільні. Пасьля Маршалка стаяць два наступныя пачэсныя грамадзяне Вільні: ген. Жэлігоўскі і ген. Рыдз-Сьміглы.

# За граніцей.

× У **Чэхаславаччыне** ў канцы гэтага м-ца адбудуцца выбары прэзыдэнта рэспублікі. Паўторны выбар цяперашняга прэзыдэнта Массарыка лічыцца пэўным. У сувязі з выбарамі стары ўрад мае падацца ў дымісыю.

× Пра пляновасьць **бальшавіцкай** гаспадаркі піша „Комсомольская Правда“ з 15 красавіка г. г., што ў Кушэўскім раёне Азоўска-Чорнаморскага краю,. памяшаліся пары году. Многа калхозаў пачынаюць толькі цяпер работу ў полі, якую трэба было выканаць у мінулым годзе. На палях Кушэўскага раёну змарнавалася 17.481 гэктараў нязьвезенага збожа і 1.550 гэкт. нязжатага яшчэ сяньня.

× **Літоўскі** ўрад злажыў пратэст у **Бэрліне** супроць нямецкай прэсавай акцыі, скіраванай на Літву. Літоўскі ўрад асьцерагае (!) Немцаў перад наступствамі такіх выпадаў, зазначаючы, што падобныя выступленьні могуць пагоршыць нямецка-літоўскія адносіны.

× **Эстонія і Латвія** прапануюць Літве прылучыцца да Эстонска-Латвійскага саюзу, падпісанага 17 лютага г. г.

× У **Англіі** падчас сходкі фашыстаў (у „Newcastle on Tyne“) быў зроблены на апошніх напад, у выніку якога ранена некалькі чалавек.

× **Рыга**. У Латвіі абвешчана ўвядзеньне ваеннага палажэньня на абшары цэлае дзяржавы. Абвесткі падпісаны старшынёю Рады міністраў Ульманісам і ваенным міністрам Балёдзісам. Абвешчаньне ваеннага палажэньня знаходзіцца ў цеснай сувязі з уплывамі, якія йшлі з гітлераўскай Нямеччыны. Пагроза «фашызму» сталася актуальнай. Прэм'ер Ульманіс у сваей дэклярацыі кладзе галоўны націск на змаганьне з гэтымі ўплывамі, скіраванымі супроць сучаснага ладу і парлямэнтарнай сыстэмы. З другога боку дэцыдуючыя дзейнкі пачалі здаваць сабе справу, што сэймовая апаратура ў Латвіі зьяўляецца неадпаведнай у сувязі з апошнямі падзеямі забаронена ладзіць усялякіх сходаў, мітынгаў і дэманстрацыяў. Усе выдавецтвы падпадаюць суровай цэнзуры; спынена выдавецтва больш як 30 часапісаў

× „Экономическая Жизнь“ даносіць аб раптоўнай зьніжцы даходаў з падаткаў у **СССР**. Падатковыя залегласьці ў палове красавіка выносілі 151 мільён руб.; пад канец месяца 177 міль. руб. на 1 га траўня 234 міль. руб.

---

**Просім усіх паважаных падпішчыкаў нашае газэты ўрэгуляваць належную падпісную плату да I-га чэрвеня г.г. У праціўным выпадку ад 10.VI. г.г. высылка газэты спыніцца. Грошы просім высылаць праз Р.К.О. конто № 61.991 Wł. Mankiewicz Wilno, Ostrobamska Nr 1. Адміністрацыя.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22,